

Фота: Ксенія Галубовіч

# 1. ЗАГІНУЛЫЯ

Фота: Белсат

***Раман Бандарэнка*** быў затрыманы і моцна збіты 11 лістапада ў двары ўласнага дома на Чарвякова невядомымі ў масках, якія прыехалі зразаць стужкі.
Ноччу ён паступіў у рэанімацыю ў цяжкім стане.
12 лістапада Раман памёр.

Па сутнасці, яго забілі. Гэтая трагедыя выклікала хвалю салідарнасці па ўсёй Беларусі.

Раман навучаўся ў Акадэміі мастацтваў на дызайнер, падчас дваравых актыўнасцяў ён вучыў дзетак маляваць.

**ГЭТА ЯШЧЭ АДНА АХВЯРА РЭЖЫМУ, ДЛЯ ЯКОГА НЯМА НІЧОГА СВЯТОГА.**



Арт: allkimiya, krashevka, nadzeya_makeyeva, lisarusalskaya, vovatsesler

# 2. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ

**9-11 ЛІСТАПАДА ПРАХОДЗІЛІ СУДЫ НАД ЗАТРЫМАНЫМІ ЗА ПАПЯРЭДНІ ТЫДЗЕНЬ КУЛЬТУРНЫМІ ДЗЕЯЧАМІ І ДЗЯЯЧКАМІ**



Музыкі з гурту ***Recha***:

***Андрусь Такінданг***, ***Ігар Асідчанка***, ***Канстанцін Лісецкі***, ***Леанід Паўлёнак*** — атрымалі па **15** сутак за дваравы канцэрт для дзетак і іх бацькоў. Стольки ж атрымаў і ***Яўген Шапчыц***, прадусар і рэжысёр.



***Алесь Жлутка***, адзін з вядучых беларускіх лацiнiстаў і скарыназнаўцаў, пакараны **10** суткамі арышту. Стольки ж за кратамі правядзе ***Уладзіслаў Стальмахоў***, дызайнер і мастак.

***Аляксандр Ждановіч*** — выдатны актор тэатру і кіно, быў пакараны **9** суткамі арышту. ***Міхась Тарэлка***, кітабіст, філолаг і гісторык мовы, атрымаў **5** сутак арышту.

***Наста Стальмахова***, дызайнерка, правёўшы **2** сутак у ізалятары ў Жодзіна, атрымала штраф у **20** базавых велічынь.



Фота: Spring96.org



***Мікола Дзядок*** — актывіст анархісцкага руху, былы палітвязень, аўтар кнігі "Фарбы паралельнага свету", за якую атрымаў прэмію Беларускага ПЭН-Цэнтра імя Францішка Аляхновіча ў 2017 годзе за лепшы твор, апісаны ў няволі, 12 лістапада быў затрыманы ў якасці падазраванага ў «парушэнні грамадскага парадку», у доме Міколы прайшоў ператрус.
Пры затрыманні актывіст быў моцна збіты, і пад уздзеяннем гвалту яго прымусілі даваць "прызнанні" на камеру дзеля канала МУС.

13 лістапада ў Клецку затрымалі ***Змітра Сасноўскага,*** лідара гурта "***Стары Ольса***", калі ён стаяў у ланцугу салідарнасці.
Зміцер знаходзіўся ў ІЧУ **3** дні, увесь гэты час яго не кармілі. 16 лістапада суд пакараў Змітра штрафам у **30** базавых велічынь. Музыка на волі.







А ў Мінску ў гэты дзень затрымалі ***Ігара Андрэева*** *(на фота)*, актора Драматычнага тэатра імя Горкага, і ***Паўла Гонца***, кіраўніка мужчынскага хора "***Унія***" (адпусцілі праз **3** дні зняволення са штрафам **810** рублёў).

## ПАДЧАС АКЦЫЙ 15 ЛІСТАПАДА БЫЛІ ЗАТРЫМАНЫЯ:

— ***Аляксандр Табольскі***, гітарыст і менаджар Naviband;
— ***Барыс Пастарнак***, вядомы выдавец кніг Святланы Алексіевіч, Віктара Марціновіча і іншых значных пісьменнікаў. Яму пагражалі крымінальным артыкулам за пашкоджанне міліцэйскай маёмасці, але Барыс параіў следчаму паглядзець відэазапісы на камеры, якія рабіў АМАП. У выніку амапавец адмовіўся ад сведчанняў і Барыса адпусцілі.
— ***Аляксандр Сакалоў***, скульптар. Сёлета ён зрабіў скульптуру Анёла - артэфакт узнагароды Прэміі Міхала Анемпадыстава за найлепшую кніжную вокладку.
— ***Кацярына Сумарава***, мастачка;
— ***Рыгор Лайкоў***, музыка з гурта PyLai, быў моцна збіты, з чэрапна-мазгавой траўмай трапіў у шпіталь. Пасля яго забралі дадому;
— ***Міхась Мішук***, мастак, аўтар адных з першых стрыт-артаў на мінскай Кастрычніцкай вуліцы ў 2012 годзе;
— ***Яўген Аццецкі***, фатограф;
— ***Ілля Ясінскі***, актор Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі, моцна збіты, гаспіталізаваны;
— ***Сяргей Гадзяеў***, дзіджэй Радыё Гродна;
— ***Канстанцін Чарухін***, пісьменнік, інвалід 1 групы;
— ***Тарас Круцкіх***, сябра фестываля BelarusDocs, журналіст, кінакрытык, адміністратар канала пра беларускае кіно "Свяшчэнны Белавуд";
— ***Таццяна Гаўрыльчык***, рэжысёрка, аператарка дакументальнага кіно (вызвалілі праз **15** гадзін пасля затрымання).

**Па звестках ад сведкаў, затрыманых, якія размаўлялі па-беларуску, пазначалі фарбай, а пасля – збівалі.**

# 3. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, АДЛІЧЭННІ

***Ігара Кулікова,*** перакладчыка, лаўрэата прэмій "Дэбют" і Карласа Шэрмана, выкладчыка ў БГАМ, выклікалі на камісію на працы і прымусілі пісаць тлумачальную запіску (наконт свайго ўдзелу ў пратэстах).





***Кацярыну Ваданосаву***, спявачку і былую тэлевядоўцу тэлеканала «Беларусь-3», выклікалі на гутарку ў РУУС. Калі Кацярына адмовілася, ёй сказалі, што могуць пад'ехаць і «прыняць» яе каля пад’езду, а дзяцей адправіць у прытулак.
Кацярына Ваданосава – адна з тых супрацоўнікаў дзяржаўнага тэлебачання, якая звольнілася падчас жнівеньскіх забастовак.



***Ганна Златкоўская***, пісьменніца, якая рэгулярна ўдзельнічала ў жаночых маршах і напісала некалькі тэкстаў, на якія былі зробленыя кранальныя відэаролікі ("Я устала, мама, отвечать на звонки", "Домой не жди, я еду в автозаке"), з'ехала з Мінска ў Вільню, баючыся крымінальнага пераследу.
Перад тым яна атрымала павестку з міліцыі.

***Уладзімір*** і ***Надзея Ірдарат*** за сваю грамадзянскую пазіцыю і ўдзел гурта ***Irdorath*** у дваравых канцэртах 9 лістапада былі звольненыя з цэнтра дадатковай адукацыі "Вікторыя".






Да мастачкі ***Улляны Няўзоравай***, якая зладзіла моцны перформанс, прыйшлі з вобшукам 12 лістапада. Вобшук, як выявілася, быў звязаны з крымінальнай справай, заведзенай у дачыненні да яе сястры, актывісткі і студэнткі БДАМ ***Марыі Каленік.***

З Акадэміі мастацтваў 9 лістапада адлічылі яшчэ трох студэнтаў: ***Рамана Давідоўскага***, ***Цімафея Шэлега*** і ***Уладзіслава Патапчыка***.
Усяго на пачатак лістапада з беларускіх ВНУ за актыўную грамадзянскую пазіцыю і ўдзел у пратэстах адлічана больш за **140** студэнтаў і студэнтак, а таксама звольнена мінімум **15** выкладчыкаў і выкладчыц.





***Ягора Прыстаўку***, вядомага выкладчыка кафедры класічнай філалогіі, кандыдата навук, які 15 год выкладаў старажытныя мовы і антычную літаратуру на філалагічным, гістарычным, юрыдычным, хімічным, біялагічным факультэтах, ФФСН і Інстытуце тэалогіі БДУ, звальняюць за ўдзел у акцыях салідарнасці з калегамі і студэнтамі.

***Кацярыне Пытлевай***, экс-вядучай БТ, тэлефанавалі з Фаніпальскага РУУС і пагражалі адказнасцю за публікацыю карцінкі ў сацсетках.



Арт: veliasnitski



Фота: Tut.by

***12 супрацоўнікаў Новага Тэатру*** ў Менску афіцыйна далучыліся ды забастоўкі. Акторам тэатру за нібыта сарваны спектакль налічылі прычыненую страту **15000** рублёў і падаюць на іх у суд.

# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ

***Вольны хор*** прысвяціў ***Раману Бандарэнку*** альбом "Годныя песні".

Гурт ***Стары Ольса*** – песню.

***Уладзімір Цэслер*** – некалькі новых прац.

***Піт Паўлаў*** таксама прысвяціў песню Раману Бандарэнку і ўсім беларускім хлопцам, якія выйшлі, не зважаючы на страх і загінулі, ня ўбачыўшы Перамогі.

Мастачка ***Аня Радзько*** прысвяціла сваю новую ілюстрацыю Раману.



Арт: Аня Радзько


Photo Credit: Telegram, Facebook

Беларуская перформер-група ***Экзарцыстычны Gesamtkunstwerk*** распачала ініцыятыву Actions Against the Wall, да якой  запрашае далучыцца калег з усяго свету.
***"Па сутнасьці, тое, што адбываецца сёння ў Беларусі – гэта барацьба грамадства супраць жалезабетоннага мура рэпрэсіўнай дзяржаўнай сыстэмы. Барацьба кожнага за права быць асобай, а не another brick in the wall"***.
Тызер першага відэа.



У стачкавы камітэт прыйшла цудоўная пасылка – наручныя гадзіннікі, якія ***Вячаслаў Сікора*** – актор тэатра і кіно, рэжысёр, сцэнарыст і “грамадзянін сваёй краіны” даслаў у знак салідарнасці з рабочымі, якія далучыліся да страйку. Ён напісаў, што гадзіннікі “ВЯЗЕНЬ 2020” у такой самай стылістыцы ён прыдумаў для тых, хто адседзелі суткі.

У адным з двароў Мінску ***жыхары*** вось так выказалі сваю салідарнасьць з акторам ***Аляксандрам Ждановічам***, якога асудзілі на **9** дзён арышту.



# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ




**ЭРЫК АРЛОЎ-ШЫМКУС, БЫЛЫ МУЗЫКА КУПАЛАЎСКАГА, УДЗЕЛЬНІК ГУРТОЎ HAROTNICA MIX І LUTY SAKAVIK, ЯКІ ВЫЙШАЎ ПАСЛЯ 12 СУТАК АРЫШТУ, РАСПАВЁЎ ПРА СВАЁ ЖОРСТКАЕ АБЫХОДЖАННЕ І ЗАВЕДЗЕНУЮ КРЫМІНАЛЬНУЮ СПРАВУ.**

**“МЯНЕ ПАСТАВІЛІ НА КАЛЕНІ І ПАСЛЯ МНЕ ПРЫЛЯЦЕЛА ДВА ЎДАРЫ ДУБІНКАЙ ПА ПРАВАЙ НАЗЕ – ПА СЦЁГНАХ – З ПЫТАННЕМ "ШТО ТЫ ТУТ РОБІШ?". Я СКАЗАЎ, ШТО СПУЖАЎСЯ ВЫБУХАЎ. ПАСЛЯ ГЭТАГА МНЕ ПРЫЛЯЦЕЛА ЯШЧЭ ДВА ЎДАРЫ ДУБІНКАЙ ПА ЛЕВАЙ НАЗЕ З ПЫТАННЕМ "ДЗЕ ТЫ БУДЗЕШ НАСТУПНЫ РАЗ?" Я АДКАЗАЎ, ШТО ДОМА. ПОТЫМ МЯНЕ ВЫВЕЛІ НА ВУЛІЦУ"**

У аўтазаку на Эрыкавай шчаце паставілі метку маркерам і ён атрымаў удары па галаве, у РУУСе пагражалі гвалтам, а ў пратаколе былі запісаныя абсалютна іншыя акалічнасці затрымання.

Таксама Эрык дазнаўся, што праходзіць падазраваным па ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса – падрыхтоўка або актыўны ўдзел у дзеяннях, груба парушаючых грамадскі парадак.
Па словах Эрыка, яму спрабавалі інкрымінаваць, што ён ці ўдарыў АМАПаўца, ці кідаў камяні ў Цэнтральнае РУУС.

Стваральнік Фонду культурнай саліdарнасці ***Сяргей Будкін*** расказаў, як можна дапамагчы рэпрэсаваным дзеячам культуры.

**“ГЭТЫ КАЛАСАЛЬНЫ ТВОРЧЫ ПАТЭНЦЫЯЛ У НАС НАЗАПАШВАЎСЯ, І БЫЎ ПАТРЭБНЫ НЕЙКІ ТРЫГЕР, ЯКІ ДАЗВОЛІЎ ЯМУ ВЫРВАЦЦА. ЁСЦЬ ДУМКА, ШТО НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ПАТРАБУЕ АХВЯРАЎ, А ІХ У БЕЛАРУСІ БЫЛО НЕДАСТАТКОВА Ў 1991-М. ЖОРСТКА ГЭТА ГУЧЫЦЬ, АЛЕ ТЫМ НЯ МЕНШ. ТОЛЬКІ АПЛЯВУХА МАГЛА ЗАПУСЦІЦЬ ГЭТЫ ПРАЦЭС".**



У фондзе звольненым дзеячам дапамагаюць з пошукам новай працы (што, на жаль, ускладняецца ўмовамі пандэміі), афармленнем дакументаў на выезд, шукаюць псіхолагаў. Калі трэба выплаціць штраф, то чалавека накіроўваюць у фонды, якія займаюцца выплатамі. Сам фонд пакуль што толькі пачынае збіраць сродкі і ідэі.

**ПАДТРЫМАЦЬ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ МОЖНА ПРАЗ PAYPAL І WEBMONEY**



Нядаўна ў ***Андруся Такінданга***, якога асудзілі на **15** сутак за дваравы канцэрт для дзетак і іх бацькоў, выйшаў сольны альбом.
Вялікай падтрымкай для Андруся будзе, калі вы паслухаеце яго музыку. У гурта ***Recha*** таксама выйшаў сінгл, які можна знайсці па спасылцы.

***Валерыя Валадзько***, спявачка гуртоў ***Harotnitsa*** і ***KRIWI***, якая была звольненая з дзяржаўнай школы за свае погляды, расказала пра сваё звальненне і новай Беларусі.
***“Дыктатура можа існаваць толькі ў атмасферы страху. Яна адраджае самыя выродлівыя практыкі. Напрыклад - даносы. Але згуртаванасць беларусаў ад гэтага толькі расце”***.






***Вячка Красулін*** – вядомы ў Беларусі музыка, лідар гурта "***Кашлаты Вох***", дудар. Быў выкладчыкам Універсітэта культуры і мастацтваў, а ў папулярных Строчыцах – музеі народнай архітэктуры і побыту – младшым навуковым супрацоўнікам.
У ноч з 10 на 11 жніўня Вячку затрымалі каля ГЦ "Рыга". Яго збівалі ў аўтазаку і на Акрэсціна, дзе ён правёў чацвёра сутак. Музыка дасюль мае праблемы з шыяй – перабітыя нервы.
Пасля таго, як Вячка зняў пабоі і падаў заяву ў Следчы Камітэт, на яго завялі крымінальную справу паводле арт. 239 ч. 2. Такі артыкул "абяцае" да васьмі гадоў зняволення. Вячка з'ехаў з Беларусі, цяпер жыве ў Літве.

**"СТРАХУ НЯМА. ЯГО НЕ МОЖА БЫЦЬ. КАЛІ ТЫ ЗРАБІЎ КРОК, КАБ ПЕРАЙСЦІ ГЭТУЮ ЛІНІЮ, – ТО ЎСЁ. КОЖНЫ АДЭКВАТНЫ ЧАЛАВЕК БОЛЬШ НІКОЛІ НЕ ПЯРОЙДЗЕ НАЗАД. ТРЭБА ІСЦІ НАПЕРАД, НАПЕРАД І ТОЛЬКІ НАПЕРАД".**

Спявак і шоўмэн ***Дзядзя Ваня (Іван Вабішчэвіч)*** пераспяваў песню расійскага рок-музыкі ***Анатоля Крупнова*** "Я застаюся", замяніўшы гэты радок на "Я выходжу"



# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

Фота: Beatričė Bankauskaitė

У Вільні з'явілася ***наружная рэклама*** з ілюстрацыямі беларускіх мастакоў у падтрымку Беларусі.

Беларускі кампазітар і музыка ***Алесь Ясінскі***, які цяпер жыве ў Празе, зладзіў у Чэхіі кампанію ў падтрымку рэпрэсаваных беларускіх творцаў і запісаў кранальнае відэа.






У Санкт-Пецярбургу адкрылася выстава салідарнасці “***У пратэсту – жаночы твар***”, арганізаваная куратарскай групай Беларусы Санкт-Пецярбурга. Выстава працягнецца да 10 снежня.

# 7. АЎКЦЫЁН










**НА АЎКЦЫЁН ВЫСТАЎЛЕНЫ ЛОТ АД УЛАДЗІМІРА ЦЭСЛЕРА**




**ЭКСКЛЮЗІЎНЫ ЛАГАТЫП ДЗЕЛЯ АРГАНІЗАЦЫІ АЛЬБО АСОБЫ**








Арт: Уладзімір Цэслер

**“ПРАВА АРТЫСТА – БЫЦЬ ВОЛЬНЫМ. АБАВЯЗАК АРТЫСТА – ДЫХАЦЬ ПАВЕТРАМ СВАЙГО ЧАСУ. Я Ў ЗАХАПЛЕННІ АД МУЖНАСЦІ ТЫХ, ХТО СЁННЯ АДСТОЙВАЕ НЕ ТОЛЬКІ СВАЮ АСАБІСТУЮ СВАБОДУ ВЫБАРУ, АЛЕ І ЛЕПШУЮ ДЛЯ ЎСІХ НАС БУДУЧЫНЮ, – КАЖА ЁН.**

Усе сродкі ад аўкцыёнаў будуць пералічаныя ў Беларускі фонд культурнай салідарнасці, створаны з мэтай аказання падтрымкі прадстаўнікам беларускай культурнай супольнасці, якія пацярпелі за сваю грамадзянскую пазіцыю.

Photo Credit: TuzinFM.by

Гэты матэрыял падрыхтаваны ў супрацы *Беларускім ПЭН-цэнтрам* і *Беларускім фондам культурнай салідарнасці*.







Інфармацыйны партнёр - партал TuzinFM.by




**КАНТАКТЫ**

E-mail: BFKS2020@protonmail.com
Telegram: @by_culture
Facebook: https://www.facebook.com/bcsfbel
YouTube: http://bit.ly/youtube-byculture

**ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

